


# Дзвінскі ўзгорак

*Кроч на свой родны,
дзвінскі ўзгорак,
каб глядзець у будучую сінь*

**ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №4 (55)
САКАВІК 2017 ГОДА**


ГРАМАДСТВА

## УЛАДА БАІЦЦА ЎЛАСНАГА НАРОДУ

**Найвялікшая ў гісторыі гораду за апошнія дзесяцігодзьдзі акцыя пратэсту адбылася ў Воршы 12 сакавіка.**

У «Маршы недармаедаў» тут узялі ўдзел звыш тысячы чалавек. Больш за 20 чалавек – арыштаваныя. Затрыманьні пачаліся яшчэ да пачатку акцыі пратэсту. Сярод арыштаваных – незалежныя журналісты і палітычныя дзеячы. Суды над імі адбудуцца 13 сакавіка.

Першы ў храналягічным парадку эпізод, першы «званочак» празьвінеў яшчэ ў пачатку сакавіка, калі на польска-беларускай мяжы абшукалі рэдактара Orsha.eu і сябра партыі БНФ Ігара Казьмерчака. Увечары 6 сакавіка адбыўсяператрус на офісе Кааліцыі дэмакратычных сілаў Воршы, канфіскаваная ўся тэхніка. Затым невядомыя людзі ўскрылі сэйф грамадзкага актывіста, сябра кампаніі «Гавары праўду!» Ігара Грышанава. Аднак, як і чакалася, пік міліцэйскіх аблаваў і затрыманьняў прыйшоўся на дзень 12 сакавіка.

Яшчэ раніцай міліцыянты пагрукалі ў кватэры сябра Беларускай Сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) Канстанціна Анташкевіча і незалежнага журналіста Арцёма Сізінцава. На кватэрах праведзеныяператрусы. Як паведаміў Арцём Сізінцаў, у пастанове на ператрус значылася імя старшага лейтэнанта юстыцыі «Барысёнак С.І.»

Ператрус у Канстанціна Анташкевіча скончыўся крыху раней, у Сізінцава трываў да 12:10, пасьля чаго супрацоўнікі міліцыі дапыталі журналіста па справе фальшываманэтчыкаў, якіх міліцыя ня ў сілах знайсьці ўжо каля 4-х месяцаў, затое «раптам» атрымала «сыгналы» пра імавернасьць знаходжаньня несапраўдных купюраў у дамох грамадзкіх актывістаў і незалежных журналістаў. Супрацоўнікі міліцыі Лаўрушкін і Шыбека, паводле словаў журналіста, паводзіліся культурна, ніякіх пагрозаў у адрас Арцёма Сізінцава не было. Натуральна, ніякіх вынікаў ператрус у кватэры, дзе Арцём пражывае са сваёй маці, ня даў. На патрабаваньне Сізінцава, пратакол допыту вёўся на беларускай мове.

Але не адзінымі ператрусамі міліцыя падрыхтавалася да акцыі пратэсту. Па адрасох, дзе прапісаныя рэдактар Orsha.eu Ігар Казьмярчак, старшыня Аб’яднанай грамадзянскай партыі Валянціна Ігнаценка і актывіст партыі БНФ Віталь Паўлаў ад самай раніцы дзяжурылі машыны зь «людзьмі ў чорным». На сваёй машыне ранкам быў затрыманы каардынатар аргкамітэту партыі «Беларуская хрысьціянская дэмакратыя» па Воршы Яўген Анішчанка. Такі самы лёс напаткаў і актывіста «Гавары праўду” Ігара Грышанава. У горадзе Дуброўне таксама быў затрыманы актывіст АГП.

Журналістка naviny.by Адар’я Гуштын паведаміла, што ад Талачына за ёй цікавалі супрацоўнікі міліцыі ў цывільным. Па прыбыцьці на чыгуначны вакзал Воршы яе і фатографа газэты «Наша Ніва» Сяргея Гудзіліна затрымалі, адабралі пашпарты і адвялі ў пастарунак. Празь нейкі час дазволілі пад канвоем паабедаць. Адпусьцілі іх толькі пасьля сканчэньня акцыі ў цэнтры гораду. Акрамя таго, блякаваным на чыгуначным вакзале Воршы на некаторы час стаўся і журналіст «Народных навінаў Віцебска» Сяржук Серабро.

Сама акцыя сабрала, па некаторых ацэнках, каля 800 чалавек. Людзі згуртаваліся на Цэнтральнай плошчы гораду, і ў гэты самы момант музыка, расейская «папса», стала гучаць з гукаўзмацняльнікаў напоўніцу. Праз пэўны час людзі скіраваліся да будынку Аршанскага райвыканкаму, дзе рашуча заявілі пра свой пратэст уладам краіны, якія замест вырашэньня сацыяльных праблемаў затрымліваюць актывістаў, даюць ім суткі арышту і шматлікія штрафы.

На ганку выканкаму іх сустрэў намесьнік мэра Воршы. Аднак доўга выступаць перад людзьмі Алег Сьмірноўскі не зьбіраўся, нічога ўцямнага людзям не сказаў, акрамя запрашэньня да дыялёгу з часткай грамады ў будынку выканкаму. Але людзі адмовіліся дзяліцца, тым больш ужо было вядома пра затрыманьні і ператрусы. Выступ Сьмірноўскага скончыўся тым, што аршанцы бязьлітасна асьвісталі яго.

**Ян Сьведка**

МЭМАРЫЯЛ

## ПАВІНЕН БЫЦЬ МЭМАРЫЯЛ У ПАМЯЦЬ РЭПРЭСАВАНЫХ

**У 2017 годзе спаўняецца 80 гадоў гэтак званаму «Вялікаму тэрору», які наўпрост зьвязаны з асобай Сталіна.**

Сталін даўно сканаў, але памяць ахвяраў сталінізму па-ранейшаму не ўшаноўваюцца. Віцебская грамадзянская ініцыятыва «Хайсы» шукае ў ваколіцах гораду месцы пахаваньняў рэпрэсаваных і вяртае грамадзтву забытыя сьведчаньні нашай трагічнай гісторыі. Наш карэспандэнт пагутарыў з кіраўніком ініцыятывы «Хайсы» Янам Дзяржаўцавым.

Паважаны спадар Ян, 5 сакавіка 1953 году сканаў Сталін, але сталінізм, нібыта выкрыты і асуджаны неўзабаве пасьля ягонай сьмерці, пасьпяхова дажыў да нашых дзён. Сёньня і ў Расеі, і ў Беларусі адбываецца пэўная рэанімацыя значнасьці асобы Сталіна, узмацняецца настальгія па тых часох. Што тычыцца Вас, скажыце, якія падзеі тае эпохі Вы найперш зьвязваеце з гэтым гістарычным пэрсанажам?

Сталін – крымінальны пэрсанаж. Імя гэтага «ўсесаюзнага пахана» зьвязанае найперш з масавым тэрорам супраць сотняў народаў. Савецкая разнавіднасьць таталітарызму – сталінізм гвалтам загнаў гэтыя народы ў найжахлівейшую ў гісторыі чалавецтва імпэрыю – СССР. Я лічу Сталіна самым вялікім злачынцам у сьвеце, які разам са сваім сябрам Гітлерам распачаў Другую сусьветную вайну ў 1939 годзе.

Нацызм і сталінізм – гэта два бакі аднаго мэдаля. Паставіўшы ідэалягічныя каштоўнасьці вышэй за каштоўнасьці агульначалавечыя, гэтыя два рэжымы разбурылі падмурак, на якім грунтуецца само жыцьцё. Наступствы вы ведаеце: толькі паводле афіцыйна прызнаных расейскай Думай лічбаў Савецкі Саюз згубіў у вайне больш за 42 мільёны чалавек, хаця некаторыя дасьледчыкі даводзяць колькасьць ахвяраў да 60 мільёнаў.

Але сталінізм мае і іншы аспэкт – гэта рэпрэсіі супраць уласных грамадзянаў у мірны час. І гэта ня толькі наўпроставыя забойствы. Прыкладам, у выніку голаду 1932 году, справакаванага калектывізацыяй, загінула 7 мільёнаў сялян. Усяго ж ахвярамі сталінскага рэжыму сталі ад 15 да 25 мільёнаў. Трэба ўсьведамляць, што мільёны ахвяраў патрэбныя былі сталінскаму рэжыму дзеля стварэньня новага савецкага чалавека, які б поўнасьцю падпарадкоўваўся дзяржаве і ня меў аніякіх памкненьняў да свабоды.

Сёлета адзначаецца трагічная дата – 80-я гадавіна «Вялікага тэрору». Як вядома, ініцыятыва «Хайсы» мае намер зьвярнуцца да кіраўніцтва гораду з прапановай правесьці мерапрыемствы, прымеркаваныя да гэтай даты. Ці спадзеецеся вы на паразуменьне з уладамі?

Якмыбачым, цяперуладыадзначаюць у асноўным сьвяты бальшавіцкія. Хаця тое ж 9-е траўня для Сталіна і савецкага народу доўгі час было не сьвяточнай, а трагічнай датай, якая не адзначалася на дзяржаўным узроўні. Гэта былі сьлёзы.

Рэч у тым, што ў бальшавікоў за душой нічога няма, і калі ў іх адняць гэтую цацку – вайну, то яны голыя. Таму такая ненатуральная, балючая ўвага да перамогі ў вайне, якую яны сабе прысабечваюць, бо гэтая перамога надае ім хоць нейкую ўяўную значнасьць. Але ж сапраўднае стаўленьне савецкай улады да ахвяраў вайны дэманструе хаця б тое, што забітых падчас баёў найчасьцей не хавалі. Добра, калі трупы забітых папросту скідвалі ў варонку ад снараду ці бомбы. Таму столькі мільёнаў зьніклых бяз весткі.



Спадзяваньняў на тое, што сёньняшнія ўлады пачнуць ушаноўваць ахвяраў рэпрэсіяў, як і ахвяраў вайны, няма. Гэта можа адбыцца толькі пасьля таго, як яны скажуць, што сталінізм – гэта злачынства супраць чалавецтва; што так, гэта наша гісторыя, але мы асуджаем такую сыстэму дзяржаўнага кіраваньня і не зьяўляемся яе спадкаемцамі. Гэта адбудзецца толькі пасьля таго, калі з вуліц нашых гарадоў зьнікнуць прозьвішчы і мянушкі бальшавіцкіх бандытаў: дзяржынскіх, кнорыных, куйбышавых, калініных, мікаянаў, сьвярдловых, кіравых, а ім на зьмену прыйдуць тысячы беларускіх прозьвішчаў нашых знакамітых суайчыньнікаў.

Як у сёньняшніх няпростых умовах знайсьці паразуменьне ў грамадзтве паміж тымі, хто шануе ахвяраў тэрору, і тымі, хто гэтых ахвяраў не прызнае? Як данесьці праўду да насельніцтва краіны, як пераканаць грамадзтва ў тым, што без асуджэньня сталінізму ў краіны няма цывілізаванай будучыні?

Нават у гэтых неспрыяльных умовах ініцыятыва «Хайсы» зьбіраецца даводзіць грамадзтву праўду пра ахвяраў сталінскага тэрору, забітых і пахаваных у навакольлях Віцебску ў невядомых магілах. Да 80-й гадавіны «Вялікага тэрору» мяркуем правесьці фотавыставу. Ідзе збор матэрыялу для кнігі і фільму, у якіх жывыя сьведкі тых падзеяў распавядуць пра месцы рэпрэсіяў і рэпрэсаваных. Аднак калі паразуменьня шукае толькі адзін бок, а другі ігнаруе яго захады, паразумецца цяжка.

Мы, безумоўна, будзем зьвяртацца і да кіраўніцтва гораду, і да Віцебскай тэлерадыёкампаніі. Але трэба разумець, што пакуль сталінізм не прызнаюць злачынствам супраць чалавецтва – ніякага паразуменьня ня будзе. І тым ня менш будзем пераконваць і грамадзкасьць, і ўладу ў тым, што ў Хайсах мусіць быць мэмарыял, бо гэта пакуль адзінае месца ля Віцебску, дзе праводзіліся афіцыйныя раскопкі, якія ўскосна пацьвердзілі, што там ляжаць ахвяры рэпрэсіяў.

**Ян Сьведка**

РУСКІ СВЕТ У ВІЦЕБСКУ

# ГДЕ ОБМАНУТЫЕ ДОЛЬЩИКИ ТАУНХАУСА «ТОПОЛЕК»?

**В ходе расследования уголовного дела части 4 статьи 209 УК (мошенничество в крупном размере) по факту расходования средств дольщиков таунхауса «Тополек», который строился на базе пустующего детсада на улице Чкалова в Витебске, следствие дополнительно разыскивает потерпевших.**

Следственными органами установлено, что российская компания «Инвест Трейдинг» заключила с белорусским ОДО «СтройДомИнвест», которым руководит Юрий Кужелёв, договор по которому это общество представляет интересы российского инвестора в Беларуси для реконструкции и строительства жилого комплекса.

Будучи директором ОДО «СтройДомИнвест» господин Кужелев период с 2012 года по 2014 год заключил предварительные договоры купли-продажи квартир с рядом покупателей. Жители Витебска, хотевшие получить квартиры в таунхаусе, финансировали долевое строительство. Однако свои квартиры они до сих пор не получили, не смогли витебляне вернуть и вложенные в строительство недвижимости деньги, сообщает официальный представитель УСК по Витебской области Светлана Сахарова.

Следователи обращаются к гражданам, которые заключили договоры купли-продажи квартир и домов с ОДО «СтройДомИнвест» и индивидуальным предпринимателем Кужелёвым Юрием Александровичем и передали свои денежные средства в их адрес, сообщить о данных фактах в управление Следственного комитета по Витебской области по адресу: г.Витебск, пр-т Московский, 51а, кабинет №622, №613 или по телефонам 8 (0212) 46 20 59, 46 20 47.

**news.vitebsk.cc**

ЗДАРЭННІ

# ОКОЛО СУТОК В ВЕНТИЛЯЦИОННОЙ ШАХТЕ

**Спасатели вытащили молодого парня из вентиляционной шахты детского сада в Витебске. Пострадавший доставлен в больницу в сознании, но с синдромом длительного обезвоживания.**

Молодого парня нашли в вентиляционной шахте детского сада №51 вечером 9 марта. Спасатели получили сообщение по телефону от дежурного милиции и выехали на поиски парня. Пострадавший подавал звуки, и бригада МЧС смогла определить точно, где он находится.

Вытащить парня наверх не было возможности, поэтому спасатели вырезали шахту перфоратором.

В вентиляционной шахте размером 40х40 сантиметров парень 1996 г.р. просидел почти сутки. Около 11 часов утра он звонил родным и сообщал, что видит только небо. К вечеру связь с ним потерялась, и родные начали поиски.

Здание детского сада имеет два этажа и ночью его сторожит сторож. Как парень попал в вентиляционную шахту, сейчас уточняет РУВД.

**Ян Сьведка**

АБЯЦАНКІ

# ОБЕЩАЮТ ПОСТРОИТЬ ПОЛИКЛИНИКУ

**Поликлинику в микрорайоне Юг-7 в Витебске планируется достроить к осени 2018 года.**

Об этом сообщил председатель Витебского облисполкома Николай Шерстнев во время личного приема граждан в ОАО «Витебскхлебпром», передает корреспондент БЕЛТА.

Одна из обратившихся к губернатору женщин попросила прояснить ситуацию со строительством поликлиники в густонаселенном микрорайоне областного центра. Этот объект начали возводить несколько лет назад, но работы прекратились, и поликлиника превратилась в долгострой. «Мы хотим комплексно завершить все начатые объекты здравоохранения. В этом списке и поликлиника в микрорайоне Юг-7. Прорабатывается несколько источников финансирования, в том числе бюджетные средства, китайские инвестиции и средства Банка развития. Будем интенсивно работать этот год и половину следующего. К осени 2018 года поликлиника должна быть введена», — пояснил Николай Шерстнев.

Как отметил присутствовавший на приеме председатель Витебского горисполкома Виктор Николайкин, уже сейчас строители работают на площадке в три смены.

На прием к губернатору пришли несколько человек. Граждане жаловались на состояние дороги в одной из деревень Витебского района, просили ускорить процесс подключения инженерных сетей к новостройкам в пригороде областного центра, говорили о ненадлежащем состоянии катков и лыжных трасс Витебска. По всем проблемным вопросам даны конкретные поручения.

После завершения приема граждан Николай Шерстнев побывал на производстве и ознакомился с состоянием дел в ОАО «Витебскхлебпром».

**БелТА**

# САКАВІЦКІ ПАЖАР

**Другога сакавіка а сёмай гадзіне раніцы у пасёлку Акцябрскі адбыўся пажар у кватэры нумар 50 па вуліцы Кастрычніцкай.**

Дзякуючы аператыўным дзеянням пажарнікаў і медыкаў, гаспадар кватэры, пенсіянер 1953 году нараджэння, які атруціўся прадуктамі гарэньня, быў выратаваны і тэрмінова шпіталізаваны ў «Віцебскую абласную клінічную бальніцу».

Акрамя таго супрацоўнікі МНС эвакуявалі трох грамадзянаў з суседняй кватэры.

Па выніках пажару сапсаваная хатняя маёмасьць, сьцены, столь.

Прычына пажару высьвятляюцца.

**Ян Сведка**

ЗЛАЧЫНСТВЫ

# ОЧЕРЕДНОЕ УБИЙСТВО

**Житель Витебского района получил 20 лет колонии за убийство в пьяном угаре.**

Областной суд вынес приговор в отношении жителя Витебского района, который с ножом ворвался в соседский дом с угрозами расправы, напал на двух человек и одного из них убил, сообщил старший прокурор отдела прокуратуры региона Алексей Толкачев.

Трагедия произошла в ночь с 1 на 2 июля прошлого года в деревне Пушкари Витебского района. Неработающий 29-летний местный житель накануне выпил с другом. Понадобилась добавка, и они отправились в соседний дачный дом, где небольшая компания отмечала день рождения.

После мирного общения гости покинули дом, прогулялись, зашли к другому соседу, а затем снова вернулись за праздничный стол. В это время и разгорелся конфликт между обвиняемым и одним из троих участников вечеринки. Причиной стала недопитая бутылка.

Затем драчуны успокоились. Но в этот момент появилась сожительница обвиняемого. Увидев кровь на губе мужчины, она набросилась на обидчика. Именинник с применением силы выгнал обоих.

Затаенная обида и опьянение стали причиной последовавшей трагедии.

«Спустя 10 минут обвиняемый и его сожительница шли к дачному дому, вооруженные ножами. За обоими бежала проживавшая с ними бабушка. Своими криками она разбудила соседа. К сожалению, мужчина стал свидетелем уже окончания кровавой драмы. К тому времени мстительная женщина набросилась на именинника, нанесла ему несерьезную рану ноги. Присоединился и обвиняемый. Потерпевший стал звать на помощь. Проснулся его друг и вступил в схватку с нападавшим, который ударил парня ножом и нанес ранение в грудь. Тогда же проснулся и дядя именинника, попытался успокоить молодежь. Обвиняемый налетел на него с ножом и ударил в сердце. Мужчина успел выскочить на улицу с телефоном, увидел подбежавшего соседа, попросил вызвать милицию, а сам стал терять сознание», — восстановил цепь событий Алексей Толкачев.

Старший мужчина спустя некоторое время скончался в больнице. Остальные двое потерпевших быстро оправились от травм, пострадавший от рук женщины не стал предъявлять ей обвинение.

А вот ее сожителю инкриминировали три статьи Уголовного кодекса: угроза убийством; насилие в отношении лица, выполняющего общественный долг по пресечению правонарушений; убийство лица в связи с выполнением им общественного долга.

По всем трем обвинениям суд признал мужчину виновным. Приговор — 20 лет лишения свободы в колонии усиленного режима, а также принудительное лечение от алкоголизма.

**news.tut.by.**

НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ СЬВЯТЫ

# ДЗЕНЬ ВОЛІ Ў ВІЦЕБСКУ

**Апазыцыянэры Віцебску падалі заяўку на шэсьце і мітынг 25 сакавіка.**

Кіраўнікі віцебскіх суполак руху «За свабоду» і партыі БНФ падалі заяўку на правядзеньне 25 сакавіка шэсьця і мітынгу, прымеркаваных да Дня Волі.

Заяўнікі просяць гарадзкія ўлады дазволіць збор удзельнікаў акцыі на адной з цэнтральных плошчаў гораду і шэсьце цэнтральнай вуліцай Віцебску. Як паведамляе прэс-служба руху «За свабоду», галоўнымі лёзунгамі акцыі будуць «За сувэрэнную і незалежную Беларусь!», «За скасаваньне дэкрэту № 3», «За спыненьне зьменаў пэнсійнай сыстэмы да паляпшэньня эканамічнага становішча», «Уся ўлада – народу на свабодных, тайных і адкрытых выбарах».

Заяўнікамі выступілі каардынатар руху «За свабоду» па Віцебскай вобласьці Леанід Гаравы і старшыня Віцебскай абласной арганізацыі партыі БНФ Кастусь Смолікаў.

«Мы падалі заяўку на Дзень Волі на шэсьце і мітынг у Віцебску. Збор плянуецца пасьля поўдня на адной з цэнтральнай плошчаў гораду, а потым – рух па вуліцы да другой плошчы, дзе будзе мітынг», – сказаў Леанід Гаравы.

Заяўнікі нагадалі, што, паводле беларускага заканадаўства, да атрыманьня дазволу нельга паведамляць дату, месца і час масавай акцыі.

**Якаў Дрозд**

## АБ'ЯВА

***Каб атрымлівацъ кожны нумар газеты "Дзвінскі Ўзгорак" паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэдэфануйце.***

***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты "Дзвінскі Ўзгорак".***

***Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***




КРЫЗІС УЛАДЫ

# ЛУКАШЭНКА ПАЧЫНАЕ РАБІЦЬ УСЁ БОЛЬШ ПАМЫЛАК

**Падзеі пятніцы, суботы і нядзелі, калі ў некалькіх гарадах Беларусі працягваліся акцыі пратэсту, якім спадарожнічалі арышты лідэраў і актывістаў апазіцыі, дазваляюць зрабіць некаторыя важныя высновы пра грамадзка-палітычныя працэсы ў краіне.**

**1. Рашэньне Лукашэнкі аб прыпыненьні рэалізацыі дэкрэту аб дармаедах не спыніла пратэставага руху, ня зьбіла актыўнасьці людзей у рэгіёнах.** Што толькі пацьвердзіла здагадку, што дэкрэт «аб дармаедах» стаў толькі дэтанатарам, каталізатарам, спускавым кручком шырокага незадаволеньня ў грамадзтве сацыяльна-эканамічным станам. Магчыма нават, што частковае адступленьне ўладаў наадварот, натхніла людзей, зрабілі іх больш сьмелымі.

**2. Беларускае грамадзтва пазбаўляеццаад«сындрому Майдану»**, то бок страху перад забурэньнямі ў выніку вулічных акцый.

**3. Падзеі лютага-сакавіка сталі канцом ідэалягічнага канструкту** пра знакамітую беларускую стабільнасьць.

**4. Эканамічны крызыс перарос у сацыяльны.** Адбываецца хутка грамадзкае абуджэньне і палітызацыя насельніцтва, чаго ўлады імкнуліся пазьбегнуць нават падчас выбарчых кампаніяў.

**5. Лукашэнка, выступаючы на нарадзе 9 сакавіка, заявіў, што дэкрэт № 3 «не зьяўляецца ні эканамічным, не фінансавым», «гэта ідэалягічны, маральны дэкрэт».** То бок ён прызваны быў прымусіць дармаедаў працаваць і тым самым аднавіць сацыяльную справядлівасьць. Але парадаксальным чынам усё адбылося з дакладнасьцю да наадварот. Гэты дакумэнт як раз ударыў па маральным аўтарытэце ўладаў і па Лукашэнку, ў прыватнасьці, спарадзіў этычны крызыс у адносінах паміж дзяржаваю і народам. Бо аб'яўляць дармаедамі людзей, якія апынуліся ў бядзе, бяз працы, ды яшчэ прымушаць іх плаціць за гэта штраф, насельніцтва палічыла дзікай несправядлівасьцю. А несправядлівасьць улады — гэта ідэалягічная дамінанта любой рэвалюцыі.

**6. Тое, што рэй вулічных акцыяў вядуць рэгіёны, а не адна сталіца,** як было раней, сьведчыць пра агульнанацыянальны характар беларускага крызысу. Ён закрануў усіх.

**7. Затрыманьні, часам прэвэнтыўныя, лідэраў і актывістаў апазіцыі сьведчаць пра канец таго пэрыяду лібэралізацыі,** які цягнуўся зь лета 2015 г. Сілавыя структуры выконваюць загад Лукашэнкі адсекчы «майданутых» ад шараговых удзельнікаў акцыяў. Аднак улады пакуль унікаюць масавых «хапуноў», «зачыстак», як тое было пасьля 19.12.2010 г. ці падчас кампаніі «Рэвалюцыя праз сацыяльныя сеткі» (2011 г.) зь некалькіх прычынаў. Па-першае, у правінцыі, раённых цэнтрах можа элемэнтарна не хапіць міліцыянтаў для такіх зачыстак. Па-другое, уладам ня хочацца псаваць адносіны з Захадам у момант, калі ідуць перамовы аб крэдыце МВФ. Па-трэцяе, і гэта галоўнае, масавыя рэпрэсіі супраць шараговых пратэстоўцаў будуць нэгатыўна ўспрыняты большасьцю насельніцтва.

І гэта шматкроць узмоцніць ідэю несправядлівасьці ўлады, разбурыць яе легітымнасьць.

**8. Лукашэнка, апынуўшыся ў сытуацыі крызысу, пачынае рабіць усё больш памылак.** Паўмера (прыпыненьне рэалізацыі, а не адмена дэкрэту аб дармаедах) ня вельмі дапамагла яму зьберагчы аблічча, а зь іншага боку, пацьвердзіла, што ўлада памылілася, што людзі, якія пратэстуюць, маюць рацыю, што рэжым не такі моцны і страшны, як уяўлялася. Да таго ж гэтае рашэньне паставіла ў недарэчную сытуацыю тых людзей, якія спужаліся і ўжо заплацілі падатак «на дармаедзтва».

А чаго вартыя загады «кроў з носу» давесьці сярэдні заробак да 500 даляраў ці ліквідаваць да 1 траўня беспрацоўе ў краіне? На нарадзе 9 сакавіка Лукашэнка загадаў прыцягнуць да рэалізацыі гэтага дэкрэту ня толькі адміністрацыю прэзыдэнта, урад, але і кіраўнікоў мясцовай вэртыкалі. «Прыцягнуць трэба ўсіх: дэпутатаў мясцовых саветаў, міліцыю, участковых, спэцслужбы», — заявіў ён. То бок увесь дзяржаўны апарат мабілізаваны на ўвесь год на выкананьне гэтага дакумэнту. Усё дзяржаўнае кіраваньне арыентаванае на вырашэньне адной задачы. Усе астатнія справы закінутыя. Параліч дзяржаўнага апарату падчас крызысу — справа ня толькі неразумная, але і небясьпечная.

**9. Апазыцыя зноў ператвараецца ў суб'ект палітыкі.** Як піша намесьнік старшыні АГП Васіль Палякоў, «упершыню за многія гады дэмакратычная апазыцыя аказалася па адзін бок барыкадаў з большасьцю беларусаў, і гэта ўнікальная сытуацыя».

**10. Крызыс беларускай сацыяльнай мадэлі цяпер падмацоўваецца ня толькі сухімі статыстычнымі паказьнікамі, але ўжо і публічнай дэманстрацыяй шырокага незадаволеньня насельніцтва.** Што, дарэчы, парадаксальным чынам можа стаць штуршком для рынкавых рэформаў. Бо пакуль народ маўчаў, Лукашэнка мог кіравацца прынцыпам: не будзі ліха, пакуль ціха. Цяпер жа рызыкі ад захаваньня статус-кво ўжо зраўняліся з рызыкамі ад магчымых рэформаў.

Падаецца, Беларусь уступае ў нейкі новы, яшчэ не зусім зразумелы этап сваёй гісторыі.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

КАНЕЦ ЛІБЕРАЛІЗАЦЫІ

# ИГРАТЬ В ЛИБЕРАЛИЗАЦИЮ СИСТЕМА ЛУКАШЕНКО НЕ ПРИУЧЕНА

**Идеология застойной стабильности провалилась, а игры в «диктатуру с человеческим лицом» неуклюжи и недолги. На опасность система будет реагировать запугиванием политических противников и народа.**

На дворе весна, но чахоточная белорусская политическая оттепель может вот-вот быть свернута. Начались точечные репрессии против оппонентов, прежде всего с организаторским потенциалом, способных раскрутить протесты против декрета № 3. Их сюжет, кроме всего прочего, показал, что вертикаль не умеет говорить с народом, а государственная идеология, которую столько лет пытался взлелеять лично Александр Лукашенко, — пустой звук.

Показанный же вечером 6 марта по каналу «Беларусь 1» «специальный репортаж» «Звонок другу» напомнил о наиболее мрачных временах зубодробительной пропаганды.

Между тем на внешнем фронте сами власти получают болезненные удары от Москвы. 7 марта в Бишкеке на заседании Евразийского межправительственного совета российский премьер Дмитрий Медведев жестко отреагировал на критику из уст белорусского коллеги Андрея Кобякова. Тот пенял на поведение Москвы в нефтегазовом споре: мол, не соблюдаете договоренности по условиям поставок энергоносителей и пр.

В ответ Медведев заявил: «Давайте прямо, без обиняков, если бы некоторые страны, присутствующие здесь, не входили в состав нашего союза или вышли бы из него, они покупали бы сейчас газ по европейским ценам... И не надо ничего доказывать и упражняться в подсчетах, все было бы гораздо дороже». Резюме российского премьера оказалось и вовсе суровым: «Здесь никто никого насильно не держит».

Итак, на глазах разрушается один из стержней белорусской государственной идеологии — миф о нерушимом братстве с Россией и сияющих перспективах евразийской интеграции. Сегодня идеологи Лукашенко в ступоре, они не знают, как реагировать на вызовы момента, внутренние и внешние.

### *Желудочная философия мстит*

Но сегодня убогая доктрина чарки и шкварки, игравшая сугубо на желудочном интересе, рассыпается. Если взять протесты «дармоедов», то людей вывел на улицы не только декрет № 3, но и прежде всего — экономический кризис. По большому счету, протестует электорат Лукашенко, возмущенный тем, что власть нарушила социальный контракт, заключавшийся в том, что она дает чарку и шкварку, а народ не бунтует.

Проблема для режима не столько в нынешних протестах (их сейчас пытаются погасить дозированными репрессиями и переписыванием злосчастного декрета), сколько в коллапсе экономической модели, основанной на массиве госсобственности и потреблении дешевых российских энергоресурсов.

Если вернуться к названным в 2003 году трем источникам белорусской госидеологии, то сейчас, по идее, нужно резко уходить от «совка», переступать через консерватизм и расширять поле для либерализма. Но это непросто «отказ от святого», это еще и большие практические риски для авторитарной системы. Ведь раскрепощение производительных сил и общества неизбежно станет расшатывать ее устои.

### Каша в чиновничьих головах

В окружении Лукашенко пытаются как-то отвечать на вызовы времени. «Большой разговор с президентом» 3 февраля стал некой заявкой на подобие диалога с обществом, включая умеренных оппонентов режима.

Но зарегулированное, имитационное мероприятие показало прежде всего боязнь, как бы процесс не вышел из-под контроля. «Большой разговор» превратился в рекордно долгий монолог все того же главного действующего лица. Нетрудно спрогнозировать, что таким же имитационным оказался бы в сегодняшних условиях и некий круглый стол, идею которого было модно обсасывать в последние недели.

Ряд аналитиков предсказывает дрейф режима в сторону мягкого национализма. Да, предпосылки для этого есть. Русификация страны была для Лукашенко козырем в период «братской интеграции» (мы один народ, вместе гнили в окопах, поэтому не скупитесь на дешевую нефть и газ). Но после крымско-донбасских событий наверху поняли, что дефицит национального самосознания — ахиллесова пята.

Была дана отмашка на мягкую белорусизацию. На днях Лукашенко призвал хорошенько прописать в учебниках древние истоки белорусской государственности — начиная от Полоцкой земли. Неожиданная уступка в вопросе Куропат (остановлена стройка, госСМИ заговорили о необходимости создать мемориал, генерал КГБ публично осуждает политические репрессии сталинского времени) тоже симптоматична.

Можно представить себе, какая каша сейчас в головах чиновников — цивильных и в погонах. Все смешалось в доме Облонских.

Сегодня вся официозная мифология рушится. Но для того чтобы сплотить общество на иной идейной основе, нужно в первую очередь менять экономическую и политическую модель. Строить рыночную, демократическую, европейскую по духу Беларусь.

Однако очень уж велики сомнения, что Лукашенко настолько готов переступить через себя. Поэтому режим будет маневрировать, в том числе и в плане идеологическом. Мы еще увидим причудливые комбинации формы НКВД и вышиванки.

При этом раз за разом приходится убеждаться: когда наверху чуют опасность, игры в либерализацию и диалог быстро сворачиваются. Получайте сапогом в морду.

*(сокращено)*

**Александр Класковский**
**naviny.by**

“ЖАННА Д’АРК” ПРАТЭСТА

# «Я ИЗ НАРОДА, НО У МЕНЯ ХАРАКТЕР НЕРАВНОДУШНЫЙ»

**Светлана Ботвич — 38-летняя уборщица в детском садике — стала одной из самых ярких фигур на массовой акции протеста, которая прошла в северном областном центре 26 февраля. Женщина решительно выходила вперед и произносила довольно смелые вещи. С легкой руки журналистов ее назвали «витебской Жанной д’Арк». TUT.BY пообщался со Светланой и узнал, что привело ее на митинг и не имеет ли это каких-либо последствий.**

Светлана Ботвич не состоит ни в каких партиях, оппозиционных движениях или организациях. Самый что ни на есть человек из народа. На уличную акцию вышла впервые. А привела ее туда, по ее словам, «обида за белорусский народ» и «несправедливость, с которой к нему относится власть».

— Я всегда интересуюсь тем, что происходит в стране. О том, что в нашем городе пройдет акция, узнала из соцсетей. И впервые за свои 38 лет решила выйти на уличный протест, так как у меня характер — неравнодушный. Я такая: если надо в ружье — я в ружье, надо на работу — я на работу. Если вижу несправедливость, молчать не стану.

Декрет № 3 «О предупреждении социального иждивенчества» не затронул саму Светлану. «Мои деньги не пахнут. Я работаю уборщицей в детском садике, а до этого много лет была санитаркой в онкодиспансере». Письмо с требованием уплатить налог на тунеядство пришло ее мужу.

Светлана несколько раз поднималась на импровизированные трибуны на ступенях — сразу на площади Победы, а потом — возле здания филармонии.

— Чиновники все одеты, обуты, у них есть машины, дачи… А мы? Сколько можно терпеть эту несправедливость? Наши деды и прадеды отстояли страну от фашистов, чтобы мы вот так жили? Я пришла сказать: так неправильно жить! — возмущалась молодая женщина. — Уважаемый Александр Григорьевич, устали люди. Уступите путь, место, дорогу молодежи, чтобы наши мужья не уезжали далеко (в поисках работы. — Прим. TUT.BY). Дайте им работу!

— Может, поначалу мне и было страшно, но потом другие эмоции захлестнули страх. Я выговорилась. И очистилась, как говорят в церкви, — признается Светлана. — Мне показалось, что люди ждали, чтобы кто-то вышел вперед и что-то сказал. Я дала толчок, и в следующий раз, думаю, таких «Светлан из народа» будет много. Люди просыпаются.

— Вас же называют «витебской Жанной д’Арк», вы в курсе?

— Соседи мне вот тоже говорят: «Какая ты молодец! Мы бы не осмелились так выступить». Но, знаете, я это делала не для того, чтобы мной восхищались. Мне за державу обидно. Беларусь мне видится красивой, чистой страной, где должны уважать человека. Наши люди действительно достойны лучшей жизни, — в голосе женщины слышны слезы.

Светлана с мужем воспитывают одного ребенка. «Родила бы и больше. Но думаешь: а хватит ли средств прокормить? Моя зарплата сейчас 230 рублей»….

**Татьяна Матвеева**




## СУАЙЧЫННІКІ! СА СВЯТАМ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ!




БЯСПАМЯЦТВА

# БЕЛОРУСЫ ПО МИРОВЫМ МЕРКАМ — ОЧЕНЬ ДРЕВНИЙ НАРОД

**«Трудно еще найти в мире народ с такой искалеченной исторической памятью, как белорусы». Политолог Валерий Карбалевич — о том, кто виноват в коллективном беспамятстве.**

4 марта Беларусь торжественно отметила 100-летие белорусской милиции. Праздновали помпезно, с парадом, несколько вечеров перекрывали движение на главном проспекте столицы для репетиции.

Свое рождение милиция отсчитывает с событий в Минске 4 марта 1917 года, когда после получения информации об отречении от престола царя Николая II группа людей захватила здание полиции. Правда, на самом деле, с учетом перехода на новый стиль, 100 лет исполняется 17 марта. Подумаешь, перепутали, ошиблись на две недели...

Более интересно другое. Никому не приходит в голову простой вопрос: а до 1917 года здесь не существовало органов охраны порядка? Пусть и назывались они по-другому.

Торжественное празднование этого юбилея позволяет еще раз обратить внимание на удивительный феномен. Белорусское общество и государство отсчитывают свою историю с 1917 года. Все официальные белорусские праздники — советские: День Октябрьской революции, 1 Мая, 8 Марта и пр.

23 февраля официально отмечается День защитников Отечества и Вооруженных сил Республики Беларусь. Этот праздник остался от СССР, считается, что в этот день в 1918 году родилась Красная армия. Опять же возникает вопрос: а до 1918 года у белорусов не было своей армии, они ни с кем не воевали, не одерживали победы? А еще отмечаются советские праздники — День пограничника, День ВДВ (это когда пьяные десантники купаются в фонтанах) и др.

Но дело не только в праздниках. Посмотрите, какие памятники стоят на центральных площадях наших городов, в честь кого названы улицы. А названия станций метро: Площадь Ленина, Октябрьская, Пролетарская, Первомайская, Парк Челюскинцев, Московская…

Создается полное впечатление, что до 1917 года здесь, на этой территории, никто не жил. То ли это была необитаемая земля, то ли люди, здесь жившие, не оставили о себе никаких следов, ни памятников, ни потомков.

На самом деле белорусы по мировым меркам — очень древний народ. Они проживают здесь свыше тысячи лет. Например, 3 марта исполнилось 950 лет г. Минску. История города отсчитывается с первого летописного упоминания о нем. 3 марта 1067 года во время битвы на Немиге возле Минска киевские князья победили полоцкого князя. Немногие города в мире могут похвастаться такой древней историей. Но вместо всенародного празднования 950-летия своей столицы, власти торжественно отметили придуманную дату: 100-летие белорусской милиции.

Трудно еще найти в мире народ с такой искалеченной исторической памятью, как белорусы, людей, не помнящих своего родства. И главная вина за это коллективное беспамятство лежит на государственной власти, которая зациклена на советском прошлом. Приезжающие сюда иностранцы называют Беларусь «осколком СССР», «парком советского периода» и пр.

В момент обострения конфликта вокруг Куропат, когда представители общественности защищали его от строителей бизнес-центра, в редакции газеты «Советская Белоруссия» состоялся «круглый стол» на тему судьбы этого мемориала. Событие весьма знаменательное.

Главный вывод участников «круглого стола» состоит в том, что белорусское общество созрело для создания национального мемориала скорби и памяти в Куропатах. На наш взгляд, общество как раз давно созрело, все дело упиралось в позицию власти, именно она никак не могла созреть. Прозвучало обвинение в адрес оппозиции, что она, дескать, «приватизировала» Куропаты, и пора этот мемориал «национализировать». Но дело в том, что демократическая общественность именно потому защищала Куропаты и фактически спасла мемориал, что власти от него отреклись, фактически не признавали, он был ничейным.

И здесь, как и в других вопросах, все зависело от позиции Александра Лукашенко. Прокуратура пробовала доказать, что в Куропатах расстреливал не НКВД, а гестапо в годы войны. Еще три раза (!) проводилось официальное расследование, делались раскопки. Однако они лишь подтвердили прежние выводы: людей расстреливал НКВД.

Но, тем не менее, Лукашенко Куропаты так и не признал. Мемориал посещают приезжающие в Беларусь делегации разных стран. Весьма знаменательным и одновременно парадоксальным является тот факт, что единственный мемориальный знак здесь установил президент США Билл Клинтон. А президент Беларуси ни разу не посетил Куропаты. Не было здесь и официальных визитов с венками белорусских чиновников.

Власти взяли курс на замалчивание сталинских репрессий. Был полностью закрыт архив КГБ, все дела о страшной трагедии 30—50-х годов вновь засекречены. В школьных учебниках сталинские репрессии представлены как необходимая мера защиты советской власти в тот исторический период.

Зато официальным мемориалом, куда возят на автобусах детей и школьников, стала «Линия Сталина». В 2006 году Александр Лукашенко заявил: «Нам навязывают, чтобы мы забыли все великое, что сделали Ленин и Сталин, а ведь это — символы нашего народа» («Комсомольская правда в Белоруссии», 2006, 20 июня).

На официальном уровне настойчиво выпячивается историческая преемственность нынешних белорусских органов госбезопасности и силовых структур с их зловещими предшественниками. Беларусь — единственная посткоммунистическая страна, где КГБ сохранил свое старое название. Торжественно отмечаются юбилеи этой организации, а также годовщины со дня рождения основателя советских карательных органов Ф. Дзержинского.

На этом фоне призыв «Советской Белоруссии» превратить Куропаты в «национальный мемориал скорби и памяти» является несколько неожиданным. Главный редактор Павел Якубович отметил, что это уже его вторая попытка. Первая была семь лет назад. Тогда был проведен аналогичный «круглый стол», на котором звучали подобные предложения. Он с сожалением отметил: «Но все это как в воду утекло. Мы тогда обратились к Минскому облисполкому — надо благоустроить, облагородить Куропаты, взять их под охрану и т. д. Власть, к сожалению, не особо прислушалась».

И это вполне закономерно. Ибо «Линия Сталина» и проспект Дзержинского в Минске как-то плохо сочетаются с мемориалом, посвященным жертвам советских репрессий. Не уверен, что новая попытка будет успешнее.

**Валерий Карбалевич**
**gazetaby.com**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сененская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку** 16.02.2017 у 16.35
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.